ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 7 (56)

ЛІПЕНЬ 1937 г.



ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК — 1937

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 7 (56)

ЛІПЕНЬ 1937 г.





ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК — 1937

## ПАСТАНОВА № 1789

### Совета Народных Камісараў БССР.

*5 жніўня 1937 г., г. Менск.*

**Аб аднаўленні ў штатах райгарАНА пасады статыстыка**

Не гледзячы на пастанову СНК СССР ад 27/IV—33 г. за № 847 аб увядзенні ў штатах райгарАНА статыстыка, гэта пасада з 1/I—36 г. у выніку шкодніцтва Наркомасветы, Наркамфіна і СНК БССР была скарочана. Гэта скарачэнне прывяло да заблытанасці ўчота па народнай асвеце.

Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Аднавіць у штатах райгарАНА з 1/VIII—37 г. пасаду статыстыка.
2. Прапанаваць Наркамфіну БССР асігнаваць на ўтрыманне статыстыкаў райгарАНА сродкі з мясцовага бюджэта.
3. Прапанаваць Наркомасветы ўкамплектаваць райАНА адпаведнымі статыстычнымі кадрамі і арганізаваць кароткатэрміновыя статыстычныя курсы для статыстыкаў райгарАНА.

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР Валковіч.

Кіраўнік Спраў СНК БССР Конікаў.

## РАСПАРАДЖЭННЕ № 86

### Совета Народных Камісараў БССР.

*5 ліпеня 1937 года г., г. Менск.*

### Усім старшыням РВК і акрвыканкомаў, Наргасучоту, НКЗ.

**Аб арганізацыі работ па ўчоту відаў на ўраджай у 1937 г.**

Па даных Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота БССР арганізацыя работ з боку РВК, райЗА і МТС па ўчоту відаў на ўраджай у радзе раёнаў пастаўлена зусім дрэнна. 28 раёнаў не далі звестак аб відах на ўраджай па травах к устаноўленаму ўрадам тэрміну (1 чэрвеня).

Маецца рад фактаў, калі многія калгасы і нават асобныя раёны даюць яўна заніжаную ўраджайнасць (Свяцілавіцкі, Чашніцкі, Магілеўскі і інш.).

Рад раёнаў (Барысаўскі, Чавускі, Веткаўскі і інш.) не правяраюць правільнасць ацэнак, дадзеных калгасамі, не арганізавалі праверку ў калгасах відаў на ўраджай на месцы.

Лічачы такое становішча недапушчальным, абавязваю старшынь РВК і акрвыканкомаў забяспечыць з боку загадчыкаў райЗА, дырэктароў МТС і соўгасаў, старшынь калгасаў прадстаўленне органам Наркамзема і органам Наргасучота звестак аб відах на ўраджай па ўсіх калгасах і соўгасах у дакладна ўстаноўленыя ўрадам тэрміны. Загадчыкам райЗА, дырэктарам МТС і старшыням сельсоветаў пад іх асабістую адказнасць *забяспечыць праверку становішча пасеваў на месцы ў калгасах і соўгасах* і правільнасць дачы ацэнак відаў на ўраджай, рашуча змагаючыся з антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі заніжэння ўраджайнасці.

СНК указвае РВК і АВК, што ліквідацыя дзяржаўнай камісіі па ўраджайнасці ўскладае на іх [яшчэ большую адказнасць за арганізацыю работ па правільнаму паказанню відаў на ўраджай.

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР Д. Валковіч.

## Усім начальнікам акруговых кіраўніцтваў, раённым інспектарам і аграномам-інспектарам Наргасучота.

### Аб праверцы якасці ўборкі і ўчота абмалотаў.

У дадатак да нашых інструкцыйных указанняў аб праверцы масавых абмалотаў зернавых культур і выяўленні скарыстоўваемых у гаспадарцы страт і выдатку зярна ў полі (гл. Інфармацыйны бюлетэнь № 6 (55) за чэрвень 1937 г.)— КНГУ БССР прапануе:

1. Неадкладна прыступіць да вымярэння страт у полі налажэннем 20-ці і больш метровак на кожную правяраемую культуру, паказаную ніжэй, а таксама страт пры абмалотах і ачыстцы зярна ў вылучаных калгасах па ўчоту страт і масавых абмалотаў.

2. У звязку з тым, што матэрыялы па ўчоту страт на полі і пры абмалотах вамі будуць дасланы ў КНГУ БССР толькі 10 кастрычніка і да гэтага тэрміна ўборка зернавых скончыцца, вам неабходна ўжо зараз, не чакаючы справаздачнага тэрміна, прыняць меры да таго, каб справаздач-

насць аб абмалотах і ў першую чаргу аб абмалотах камбайнамі была дастаткова правільнай.

3. Усе вынікі па вымярэнню страт запісваюцца ў сшытак, які павінен будзе завесці ўчастковы інспектар. Усе гэтыя запісы неабходны будуць для складання картак 4-а, 4-б і 4-в.

4. Па меры выяўлення страт на полі і пры абмалотах, не чакаючы тэрмінаў прадстаўлення картак на 1-е кастрычніка, неабходна дакладваць РВК аб фактах нядобраякаснай уборкі і абмалоту, дабіваючыся спецыяльнага рашэння прэзідыума РВК для тэрміновага прыняцця мер на месцы.

Таксама неабходна асвятляць факты нядобраякаснай уборкі і абмалоту ў раённым і цэнтральным друку.

На кожны выпадак выяўлення вялікіх страт пры ўборцы і абмалотах складаць акты, копіі якіх з вашай кароткай дакладной запіскай дасылаць у сектар вызначэння ўраджайнасці КНГУ БССР.

5. Райінспектарам неадкладна праінструктаваць усіх участковых інспектароў аб парадку і характару правядзення гэтай работы і сістэматычна кантраляваць выкананне яе.

6. Начальнікам акруговых кіраўніцтваў Наргасучота з атрыманнем гэтага пісьма неадкладна праінструктаваць і арганізаваць работу раённых інспектароў сваёй акругі і забяспечыць правядзенне работ па выяўленню страт пры ўборцы і абмалоце, а таксама своечасовае прадстаўленне нам матэрыялаў. Аб ходзе работ інфармаваць КНГУ БССР 8/VIII, 20/VIII, 5/IX.

7. Аграномам-інспектарам тэрмінова прыступіць да арганізацыі і інструктажа раённых і ўчастковых інспектароў аб правядзенні гэтай работы, а таксама праводзіць сістэматычны кантроль работы райінспектур.

8. Растлумачваем, што: а) вымярэнне страт вытвараецца па наступных культурах: жыта азімае, пшаніца азімая, пшаніца яравая, ячмень, авёс і лён; б) праверка ўчота масавых абмалотаў вытвараецца на 1 кастрычніка па наступных культурах: жыта азімае, пшаніца азімая, пшаніца яравая, ячмень, авёс і лён.

9. Акрамя таго, прапануецца выконваць нашы ўказанні аб праверцы і дасылцы справаздачнасці аб ходзе абмалотаў і аб ходзе ўборкі камбайнамі ва ўстаноўленыя тэрміны, па формах № 5-а і 6-а.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Мікуноў.

5 жніўня 1937 г.

## Указанні раённым інспектарам Наргасучота па распрацоўцы даных праверкі ўчота абмалотаў у калгасах, выяўленні скарыстоўваемых страт у гаспадарцы і выдатку зярна ў полі (па картках №№ 4-а, 4-б, 4-в).

Атрымоўваемыя пры праверцы даныя аб правільнасці ўчота абмалотаў, аб размерах скарыстоўваемых страт у гаспадарцы і выдатку зярна ў полі з'яўляюцца *асноўным кантрольным матэрыялам* для сектараў учота ўраджаю пры ўстанаўленні ўраджайнасці ў калгасах. Адначасова гэтыя матэрыялы павінны быць поўнасцю выкарыстаны для барацьбы са стратамі і за правільную пастаноўку ўчота зярна ў калгасах.

Кожны раённы інспектар павінен на працягу ўсяго ходу гэтай работы правяраць якасць яе правядзення ўчастковымі інспектарамі і іншымі прыцягнутымі асобамі і дабівацца праз праўленні калгасаў і раённыя арганізацыі знішчэння ўсіх выяўленых недахопаў у ходзе ўборкі і ўчота зярна. Раённы інспектар абавязан праверыць і распрацаваць атрымліваемыя карткі і своечасова прадставіць іх разам з раённай зводкай у КНГУ. Пры правядзенні гэтай работы раённы інспектар павінен кіравацца наступнымі ўказаннямі:

1. Карткі па праверцы ўчота абмалотаў (форма № 4-а), выяўленню страт у гаспадарцы (форма № 4-б) і выдатку зярна ў полі (форма № 4-в) паступаюць раённаму інспектару ў 3-х экз. неадкладна па іх запаўненню ў калгасах. Адзін з гэтых экземпляраў раённы інспектар у той-ж час дасылае ў сектар учота ўраджая КНГУ. Затым раённы інспектар правярае правільнасць запаўнення кожнай карткі ўчастковымі інспектарамі або другімі работнікамі, вытвараўшымі праверку, і ў выпадку выяўлення памылак або няправільнасці зварачвае картку асобе, якая яе запаўняла, для адпаведнага яе выпраўлення; сам-жа ён ніякіх выпраўленняў у карткі не ўносіць.

Калі праверка картак выкліча сумненне ў правільнасці правядзення работы ў тым або іншым калгасе па выяўленню недаўчота, размераў скарыстоўваемых у гаспадарцы страт або выдатку ў полі, раённы інспектар абавязан выехаць у гэты калгас разам з асобай, вытвараўшай абследванне, і праверыць на месцы яе работу, а ў выпадку неабходнасці правесці работу нанова. На працягу ўсяго часу работы ўчастковых інспектароў або прыцягнутых асоб па выяўленню недаўчота скарыстоўваемых страт і выдатку ў полі раённы інспектар абавязан правяраць і інструктаваць іх на месцы ў абследуемых калгасах. Адначасова раённы інспектар павінен і сам правесці праверку ўчота абмалотаў і вы-

яўленне скарыстоўваемых страт у гаспадарцы і выдатку ў полі ў адным-двух калгасах.

2. Пракантраліраваныя карткі №№ 4-а, 4-б і 4-в раённы інспектар зводзіць у цэлым па ўсіх правераных калгасах, заносіць атрыманыя рэзультаты ў раённую зводку па ф. № 4-г і разам з адным экземплярам пярвічных праверааных картак (№№ 4-а, 4-б і 4-в) дасылае яе ў КНГУ не пазней як праз 10 дзён пасля другога тэрміну прадстаўлення калгасамі адчотаў аб абмалотах (ф. № 14).

3. Пры запаўненні другога і трэцяга радкоў формы № 4-г і ўсяго раздзела „Вынікі праверкі ўчота абмалотаў" раённы інспектар павінен кіравацца наступнымі ўказаннямі:

а) радкі 2, 3, 4-а і 5-а запаўняюцца данымі, атрыманымі шляхам складання граф 2, 3, 4 і 7 усіх картак № 4-а;

б) даныя ў радках 4-б і 5-б па кожнай культуры атрымліваюцца шляхам адпаведнага складання лічб, указаных у графах 6 і 9 па ўсіх картках № 4-а, і дзялення атрыманых сум на лік картак, у якіх гэтыя графы запоўнены.

4. Раздзел раённай зводкі „Вынікі выяўлення скарыстоўваемых страт у гаспадарцы" мае сваёй задачай устанавіць, у першую чаргу, якая колькасць зярна ў кілограмах застаецца пры абмалоце і сартаванні ў сярэднім на *га* ў саломе і палове ў правяраемых калгасах. Пагэтаму раней чым прыступіць да запаўнення гэтага раздзела зводкі, раённы інспектар павінен вылічыць абсалютныя размеры гэтых відаў страт (у кілаграмах на *га*) па кожнай культуры ў кожным калгасе. Гэтыя вылічэнні вытвараюцца шляхам памнажэння сярэдняга намалоту зярна на *га* (графа 9 п. 3 пярвічнай карткі формы № 4-а) на процант, паказаны ў радках 4 і 13 формы № 4-б. Напрыклад, сярэдні намалот у якім-небудзь з праверааных калгасаў па жыту складае 12,5 цэнтнераў на *га*, а процант недавымалоту зярна ў саломе— 4 проц. Выходзіць, што страты ад недавымалоту жыта ў гэтым калгасе будуць выражацца ў $\frac{12{,}5 \times 4}{100} = 0{,}6$ *цнт*, або 60 *кгр*. Вынікі гэтых вылічэнняў раённы інспектар заносіць у кожную з пярвічных картак формы № 4-б па кожнай з культур, па якой вытваралася выяўленне страт ад недавымалоту і ад пакідання зярна ў саломе і ў мякіне, запісваючы іх назоўнікам у радкі 4 і 13.

Запаўненне раздзела „Вынікі выяўлення скарыстоўваемых страт у гаспадарцы" ў раённай зводцы (формы № 4-г) вытвараецца наступным чынам:

а) для запаўнення радка 7 па ўсіх праверааных картках № 4-б суміруецца вылічаная ў кілограмах сярэдняя вага недавымалачанага зярна на 1 *га* (назоўнік у радку 4-тым) і атрыманая сума падзяляецца на лік картак, па якіх вы-

тваралася вылічэнне. Інакш кажучы, з агульнага ліку праверанах картак пры гэтым дзяленні выключаюцца такія пярвічныя карткі, у якіх па існуючых культурах радок 4 не запоўнены—або ў выніку поўнай камбайнізацыі ўборкі альбо з прычыны адсутнасці данай культуры ў пасеве асобных калгасаў. Дапусцім, напрыклад, што праверка недавымалату зярна ў саломе па азімай пшаніцы вытваралася ў 4-х калгасах. У першым з іх надавымалат, вылічаны раённым інспектарам, складае 25 *кгр* на *га*, у другім—17 *кгр*, у трэцім—уся плошча азімай пшаніцы была ўбрана камбайнам і ў чацвертым—размеры недавымалату вызначыліся ў 18 кілаграмаў. Тады сярэдні размер недавымалату, які трэба запісаць у радок 7, будзе складаць $\frac{25+17+18}{3}=20$ *кгр* на адзін *га*;

б) радок 8 зводкі „Пакінута зярна ў саломе, мякіне і палове пры ўборцы камбайнамі" запаўняецца шляхам сумiравання радка 9-га картак № 4-б і дзялення сумы на лік картак, увайшоўшых у падлік (г. зн. картак, у якіх гэты радок быў запоўнены);

в) запаўненне радка 9-га вытвараецца на падставе вылічаных у картках (форма № 4-б) абсалютных колькасцей зярна, пакінутага ў палове і мякіне, так сама, як пры запаўненні радка 7-га;

г) радок 10-ты запаўняецца па даных раённай зводкі формы № 2 заключнай справаздачнасці па пасеўных плошчах;

д) для запаўнення радка 11-га даныя бяруцца з апошняй дэкаднай справаздачы МТС аб выніках уборкі камбайнамі;

е) паколькі суадносіны паміж убранымі камбайнамі і іншымі спосабамі плошчамі ў розных раёнах і па розных культурах вельмі рознастайны, то, каб не дапусціць памылкі пры вызначэнні колькасці зярна, пакінутага ў саломе, палове і мякіне ў сярэднім на га, нельга абмежавацца вывядзеннем простай сярэдняй арыфметычнай, як пры вывядзенні сярэдняга недаўчота, а неабходна ўлічыць указаныя суадносіны.

Для таго, каб запоўніць радок 12, з усёй пасеўнай плошчы данай культуры па ўсіх калгасах раёна (радок 10) трэба адняць плошчу, убраную камбайнамі (радок 11-ты). Атрыманую розніцу памножыць на суму паказанняў радкоў 7-га і 9-га. Затым неабходна памножыць плошчу, убраную камбайнамі (радок 11-ты) на лік, прастаўлены ў радку 8-ым, і абодва здабыткі скласці, а атрыманы ад іх складання лік падзяліць на плошчу пасева данай культуры ва ўсіх калгасах раёна (радок 10). Дапусцім, што плошча жыта ва ўсіх калгасах раёна складае 30 500 га, з якіх, згодна апош-

няй зводкі аб ходзе ўборкі камбайнамі, прадстаўленай МТС райінспектару, убрана камбайнамі 12500 га. Дапусцім таксама, што размеры выяўленага недавымалату ў саломе (радок 7) складаюць пры абмалоце малацілкамі 20 *кгр* на га. Размеры зярна, пакінутага ў саломе, мякіне і палове пры ўборцы камбайнамі (радок 8), у сярэднім на га па правераных калгасах складаюць 18 *кгр* і пакінута зярна ў палове і мякіне пры абмалоце малацілкалі (радок 9)—10 *кгр* на га. Устанаўляем спачатку, якая колькасць зярна пакінута ў сярэднім на га ў саломе, мякіне і палове пры абмалоце малацілкамі. Яна будзе складаць 20 *кгр*+10 *кгр*=30 *кгр*. Усяго прасцейшымі машынамі ў раёне ўбіраецца 30 500 га мінус 12 500 га альбо 18 000 га. Значыць, калі на адзін га пакінута пры абмалоце малацілкамі ў саломе, палове і мякіне 30 *кгр*, то на ўсю плошчу, убраную прасцейшымі машынамі, гэта складзе 30 *кгр*, памножанае на 18 000=540 000 *кгр*=5400 *цнтн*. Па плошчы, убранай камбайнамі, пакінутае зярно ў саломе, мякіне і палове складзе 18 *кгр*×12500 га, г. зн. 225 000 *кгр*, альбо 2250 *цнт*. Для таго, каб атрымаць сярэдні размер пакідання зярна ў саломе, палове і мякіне на гектар па раёну, застаецца скласці абедзве колькасці, выведзеныя намі для розных спосабаў уборкі (5400 *цнт*+2250 *цнт*) і падзяліць іх на ўсю плошчу жыта (30500). Гэта складзе 7650 *цнт*, падзеленае на 30 500=0,25 *цнт*, альбо 25 *кгр* на га. Гэта лічба і павінна быць запісана ў радку 12-м;

ж) радок 13-ты запаўняецца шляхам складання сярэдняй вагі зярна ў каласках на адзін га стэрні па ўсіх картках № 4-б (радок 18) і дзялення атрыманай сумы на лік картак, у якіх маецца гэты паказчык.

На падставе звычайнай працягласці пасьбы жывёлы па стэрні культур (глядзі радок 14 карткі 4-б), учота мясцовых умоў выпасу жывёлы на стэрні, апытання ўчастковых інспектароў, вытварыўшых праверку, і асабістага азнаямлення на месцы пры наведванні калгасаў, раённы інспектар у экспертным парадку вызначае, колькі з пакінутага зярна ў каласках на адзін га стэрні магло быць скарыстана пры выпасе жывёлы (радок 14 зводкі).

5. Раздзел „Вынікі выяўлення выдатку ў полі“ запаўняецца наступным чынам:

а) спачатку ўстанаўляецца колькасць безучотна скормленага жывёле хлеба ў абмалочаным і неабмалочаным выглядзе (радок 16), шляхам дзялення па кожнай картцы 4-в колькасці цэнтнераў, скормленых жывёле безучотна ў даным калгасе (радок 6 карткі 4-в), на абмалочаную плошчу ў гэтым-жа калгасе (графа 7 раздзела 3-га карткі 4-а). Затым атрыманыя ад дзялення лічбы па ўсіх картках № 4-в складаюцца, і сума падзяляецца на лік картак, уключаемых у зводку па кожнай асобнай культуры;

б) колькасць безучотна выдаткаванага зярна на грамадскае харчаванне (радок 17-ты) выводзіцца такім-жа шляхам, як і папярэдні артыкул выдатку—на падставе радка 9-га картак № 4-в;

в) колькасць дадаткова выяўленага безучотнага выдатку па іншых артыкулах (радкі 18 і 19) выводзіцца такім-жа шляхам на падставе радкоў 10 і 11 картак 4-в.

6) Устаноўленыя недаучот, страты ў гаспадарцы і выдатак у полі паказваюцца ў раённай зводцы № 4-г па кожнай з праверaных культур.

7. Да пасылаемай у сектар вызначэння ураджая КНГУ зводкі павінна быць прыкладзена тлумачальная запіска, у якой абавязкова паведамляецца:

1. Як скарыстаны раённым інспектарам матэрыялы праверкі для барацьбы са стратамі і за правільную пастаноўку ўчота зярна. Вынесеныя раённымі арганізацыямі рашэнні па дакладах райінспектара і змешчаныя апошнім артыкулы і заметкі ў раённай газеце павінны быць прыкладзены.

2. Якасная характарыстыка праведзенай работы.

Намеснік начальніка Цэнтральнага Кіраўніцтва
Наргасучота Дзяржплана СССР Попоў.

## Усім раённым інспектарам, начальнікам акруговых кіраўніцтваў і аграномам-інспектарам Наргасучота.

ЦУНХУ зацверджана для НКЗема спецыяльная справаздачнасць па апрабацыі пасеваў, якая дае магчымасць своечасова сачыць за ходам выканання гэтай важнейшай работы.

У сувязі з правядзеннем НКЗемам суцэльнай апрабацыі сартавых пасеваў, а таксама ўсіх пасеваў на насенных участках, незалежна ад таго, ці засеяны яны сартавым альбо радавым зярном, Кіраўніцтва Наргасучота БССР абавязвае начальнікаў акруговых кіраўніцтваў, раённых інспектароў і аграномаў-інспектароў арганізаваць сталы кантроль за якасцю гэтай справаздачнасці і яе своечасовым прадстаўленнем. У прыватнасці, неабходна праверыць, ці не паказваюцца ў справаздачах плошчы, на якіх фактычна апрабацыі праведзена не было, ці сапраўды ўся плошча сартавых пасеваў і ўся плошча насенных участкаў узята райЗА на ўчот і ўключана ў план апрабацыі (апошняе магчыма выявіць пры параўнанні з данымі заключнай справаздачнасці па пасеўных плошчах пры ўмове, што ў ёй поўнасцю ўлічаны ўсе сартавыя пасевы і насенныя ўчасткі).

*Раённы інспектар* правярае заключную справаздачнасць райЗА і МТС аб апрабацыі пасеваў на тры тэрміны: 1/VIII,

15/VIII і 1/IX, прычым неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на наступныя моманты ў рабоце:

1. Праверыць, ці ўсе пасеўныя плошчы сартавых пасеваў і пасеваў на насенных участках уключаны ў план апрабацыі і ці на ўсёй плошчы праведзена апрабацыя пасеваў.

2. Праверыць, ці ўсе акты апрабацыі ўключаны ў зводку, асобна сартавых пасеваў і насенных участкаў.

3. Ці ўтвараецца падлік пасеўных плошчаў па кожнай катэгорыі на кожны сорт згодна актаў апрабацыі.

4. Ці правільна размеркаваны плошчы пасеваў, пры складанні зводкі, на сартавыя і радавыя па актах апрабацыі з насенных участкаў.

5. Праверыць ітогі па форме № 103 (райЗА) і па форме № 10 (МТС) усіх сартавых пасеваў па культурах і сартах і ітогі па сартавых і радавых пасевах па культурах апрабацыі пасеваў на насенных участках.

6. Аб выніках праверкі справаздачнасці аб апрабацыі пасеваў раённы інспектар паведамляе КНГУ (сектар вызначэння ўраджайнасці) кароткай дакладной запіскай на другі дзень пасля праверкі.

Аб выяўленых недахопах і скажэннях у справаздачнасці аб апрабацыі пасеваў таксама неабходна далажыць прэзідыуму РВК для прыняцця мер да знішчэння гэтых недахопаў на месцы.

7. Раённы інспектар таксама праводзіць праверку тэлеграфнай пяцідзённай справаздачнасці аб ходзе апрабацыі пасеваў, і аб выяўленых недахопах складае акты.

8. Сваю праверку неабходна аформіць актам у 3-х экземплярах (адзін экземпляр—МТС альбо райЗА, адзін экземпляр захоўваецца ў справах райінспектара і адзін экземпляр дасылаецца з дакладной запіскай сектару вызначэння ўраджайнасці КНГУ).

*Аграном-інспектар*:

1. Інструктуе і правярае раённых інспектароў аб правядзенні імі гэтай работы.

2. Сам правярае адну-дзве МТС і райЗА ў наведваемым раёне на ўстаноўленыя вышэй тэрміны.

3. Правярае райЗА і МТС аб выкананні імі рашэнняў урада і інструкцыі НКЗема аб апрабацыі пасеваў.

4. Вынікі праверкі паведамляе ў той-жа дзень сектару вызначэння ўраджайнасці КНГУ.

*Начальнік акруговага кіраўніцтва Наргасучота*:

1. Забяспечвае праверку і інструктаж усіх раённых інспектароў акругі аб абавязковым і правільным выкананні імі дадзенага задання.

2. Асабіста правярае дзве-тры МТС і райЗА, а таксама кіраўніцтва гэтай работай з боку акрЗА;

3. Вынікі праверкі паведамляць дакладнымі запіскамі на кожны тэрмін праверкі сектару ўраджайнасці КНГУ БССР.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Мікуноў.

27 ліпеня 1937 г.

# ПОСТАНОВЛЕНИЕ № 262

## Центрального Управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР

*26 июня 1937 года.*

### Об утверждении отчетности райЗО и МТС об апробации посевов.

На основании разрешения СНК СССР от 14/VI—37 г. за № 200-4 утвердить следующие формы отчетности райЗО і МТС об апробации посевов:

1. Пятидневный телеграфный отчет о ходе апробации посевов по культурам и сортам.

2. Заключительный отчет аб апробации посевов (ф. № 103—РИК и № 10—МТС).

3. Заключительный отчет об апробации посевов на семенных участках (в качестве приложения к ф. № 103—РИК и № 10—МТС).

Формы прилагаются.

По указанным выше формам отчет представляется: машиннотракторными станциями—по колхозам, обслуживаемым МТС, а райземотделами—по колхозам, необслуживаемым МТС.

Предложить НКЗ СССР представить в Отдел утверждения отчетности ЦУНХУ 3 экз. утвержденных форм в 2-дневный срок по отпечатании.

Зам. Нач. Центрального Управления народно-хоз. учета Госплана СССР Попов.

**Расписание сроков представления заключительного отчета по апробации посевов для МТС и райземотделов**

| Республики, края и области | Озимые | Ранние яровые (зерновые и масличные и травы 1-го укоса) | Поздние яр. (зерновые и масличные и травы 1-го укоса) |
|---|---|---|---|
| Белорусская ССР . . . . . . . . . | 1/VIII | 15/VIII | 1/IX |

Район ____________________

Область (край) ____________

Республика ______________

РИК отчетн. ф. № 103
3 раза в год

Представляется наркомземам республик, не имеющих областного деления, или обл(край)ЗУ отдельно по озимым, ранним яровым и поздним яровым. Отчет представляется в течение 5 дней после окончания апробации (озимых, ранних яровых и поздних яровых), но не позднее срока, указанного в специальном расписании для отдельных краев и областей.

## Заключительный отчет об апробации посевов

| Культура | Сорт | Всего апробировано (га) | Из них забраковано (га) | Признаны сорт. и отнесены к | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I категории (га) | II категории (га) | III категории (га) | IV категории (га) | Всего сортовых (га) |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | | | | |

Зав. райЗО Старший агроном

Дата отправления отчета

Район ____________________

Область (край) ____________

Республика ______________

Прилож. к отчетн. РИК'а ф. № 103
3 раза в год

Представляется наркомземам республик, не имеющих областного деления, или обл(край)ЗУ отдельно по озимым, ранним яровым и поздним яровым. Отчет представляется в течение 5 дней после окончания апробации (озимых, ранних яровых и поздних яровых), но не позднее срока, указанного в специальном расписании для отдельных краев и областей.

## Заключ. отчет об апробации посевов на семен. участках

| Культура | Сорт | Всего апробировано посев. (га) | В т. ч. | | Из сортовых посевов | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сортовых (га) | Рядовых (га) | Забраковано (га) | Признано сорт. и отнесено к | | | | |
| | | | | | | I категории (га) | II категории (га) | III категории (га) | IV категории (га) | Всего сортовых (га) |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | | | | | | |

Зав. райЗО Старший агроном

Дата отправления отчета

МТС ____________________

Район ____________________

Отчетность МТС ф. № 10
3 раза в год

Представляется наркомземам республик, не имеющих областного деления или обл(край)ЗУ и райземотделу отдельно по озимым, ранним яровым и поздним яровым. Отчет представляется в течение 5 дней после окончания апробации (озимых, ранних яровых и поздних яровых), но не позднее срока, указанного в специальном расписании для отдельных краев и областей.

## Заключительный отчет об апробации пасевов

| Культура | Сорт | Всего апробировано (га) | Из них забраковано (га) | Признаны сорт. и отнесены к | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I категории (га) | II категории (га) | III категории (га) | IV категории (га) | Всего сортовых (га) |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | | | | |

**Директор МТС** **Старший агроном**

Дата отправления отчета

МТС ____________________

Район ____________________

Приложение к отчетн. МТС ф. № 10
3 раза в год

Представляется наркомземам республик, не имеющих областного деления, или обл(край)ЗУ и райземотделу отдельно по озимым, ранним яровым и поздним яровым. Отчет представляется в течение 5 дней после окончания апробации (озимых, ранних яровых и поздних яровых), но не позднее срока, указанного в специальном расписании для отдельных краев и областей.

## Заключ. отчет об апробации посевов на семен. участках

| Культура | Сорт | Всего апробировано посев. (га) | В т. ч. | | Из сортовых посевов | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сортовых (га) | Рядовых (га) | Забраковано (га) | Признано сорт. и отнесено к | | | | |
| | | | | | | I категории (га) | II категории (га) | III категории (га) | IV категории (га) | Всего сортовых (га) |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | | | | | | |

**Директор МТС** **Старший агроном**

Дата отправления отчета

## Загадчыкам райЗА і дырэктарам МТС.

Для складання плана апрабацыі сартавых пасеваў бульбы Наркамземам адносінай ад 5/VI г.г. запрошаны ад вас матэрыялы аб фактычным выкананні плана пасева сартавой бульбы, клубневага адбору і выдзяленні насенных участкаў. Маюцца выпадкі, калі райЗА і МТС замест таго, каб выкарыстаць матэрыял маючайся справаздачнасці па ўстаноўленых формах № 3 „Аб ходзе вясенніх работ і яравой сяўбы" і форм. № 6 „Аб сартавых пасевах у вясеннюю пасеўкампанію" запрашваюць калгасы, што парушае ўстаноўленую справаздачнасць СНК СССР.

Формы, па якіх быў запрошан матэрыял аб сартавых пасевах, адмяняю.

Прапаную райЗА скласці планы па раёну ў цэлым па апрабацыі ўсіх сартавых пасеваў бульбы, выдзеліўшы асобна клубневы адбор і насенныя ўчасткі.

План апрабацыі складаецца ў калгасным разрэзе з паказаннем, да якога завода прымацаваны (спіртзавод, крухмальны, Белкмо).

Нам. наркома Земляробства БССР Баранчык.

14/VI 1937 г.

## У КНГУ БССР.

Паасобныя КНГУ запрашваюць аб парадку ўнясення даных аб ліку жывёлы на чэрвень месяц у пагаспадарчыя кнігі сельсоветаў.

ЦУНХУ растлумачвае, што ў сувязі з тым, што летні ўчот жывёлы ў бягучым годзе не праводзіцца, гэты раздзел пагаспадарчых кніг не запаўняецца. Ніякіх спецыяльных учотаў колькасці пагалоўя жывёлы для гэтай мэты сельсоветы не праводзяць.

Нам. начальніка ЦУНХУ Дзяржплана СССР Папоў.

20 ліпеня 1937 г., № 26—009.

## Райінспектарам Наргасучота.

Згодна ўказанняў ЦУНХУ Дзяржплана СССР, участковыя інспектары павінны пастаянна знаходзіцца на сваіх участках. Зразумела, што ўчастковы інспектар можа лепш абслугоўваць свой участак толькі тады, калі ён будзе пастаянна знаходзіцца на сваім участку і жыць у цэнтры

свайго ўчастка. Аднак, зараз наглядаецца такое становішча, што значная частка ўчастковых інспектароў знаходзіцца пераважна ў раённым цэнтры замест таго, каб сістэматычна працаваць на сваіх участках. У выніку гэтага з боку пасобных участковых інспектароў няма належнага нагляду і праверкі становішча ўчота ў радзе сельсоветаў і калгасаў і нічога не робіцца для палепшання гэтага ўчота.

Лічачы такое становішча надалей зусім недапушчальным, паколькі яно вельмі адбіваецца на выкананні ўсіх заданняў і на рабоце райінспектур, Кіраўніцтва наргасучота БССР прапануе вам зараз-жа прыняць меры да таго, каб участковыя інспектары абавязкова знаходзіліся пастаянна на сваіх ўчастках, а не ў раённым цэнтры.

Адначасова прапануем Вам асабіста праверыць у сельсоветах, якія з'яўляюцца цэнтрамі ўчасткаў участковых інспектароў, ці створаны там належныя ўмовы для работы ўчастковых інспектароў (ці прадастаўлена ім месца для заняткаў, асвятленне, карыстанне тэлефонам і г. д.) згодна пастановы СНК СССР ад 4 жніўня 1934 г. і СНК БССР ад 3 сакавіка 1935 г., № 287. Калі акажацца, што ў сельсовеце няма належных умоў для работы ўчастковага інспектара—неадкладна паставіць аб гэтым пытанне на прэзідыуме РВК і дабіцца таго, каб такія ўмовы для работы ўчастковага інспектара былі створаны.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Мікуноў.

16 чэрвеня 1937 г., № 11.

## ЗАГАД № 581

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 15/VII—37 года.*

Аб'яўляю загад па Цэнтральнаму кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР за № 329 ад 9-га ліпеня 1937 г.

„У змену загада ЦУНХУ № 241 ад 2/VII 1937 г. часова выконваючага абавязкі начальніка КНГУ БССР т. Мікунова, Ф. С., назначыць начальнікам КНГУ БССР. Нам. нач. ЦУНХУ Дзяржплана СССР Цагурыя".

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Мікуноў.

## ЗАГАД № 536

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 7 ліпеня 1937 года.*

Участковага інспектара Бабруйскага раёна Мазуронка ад работы аслабаніць з 17 ліпеня 1937 г.

Прапанаваць тав. Леўковічу перадаць следчым органам справу аб прыцягненні да адказнасці Мазуронка за очкаўцірацельства.

Падстава: Дакладная запіска тав. Леўковіча з заключэннем начальніка Ўчотнай інспекцыі тав. Магідава.

Нам. начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР Абудзееў.

## ЗАГАД № 580

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 15-га ліпеня 1937 года.*

За самавольнае астаўленне інспектуры на працягу шасці дзён (з 9 па 15 ліпеня), што пагражала зрывам правадзімых учотных работ, абвясціць талачынскаму райінспектару тав. Шэпелькевічу суровую вымову.

Даручыць бухгалтэрыі ўтрымаць з зарплаты ў тав. Шэпелькевіча за шэсць дзён прагула.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР Мікуноў.

## ПАСТАНОВА

### Прэзідыума Бабруйскага РВК

*ад 15 ліпеня 1937 года.*

**Аб выніках праверкі якасці ўборкі ў калгасах імя Будзённага, Осаўскага с/с, і імя Варашылава, Хімоўскага сельсовета**

Заслухаўшы інфармацыю райінспектара Наргасучота тав. Леўковіча аб выніках праверкі якасці ўборкі ў калгасах імя Будзённага, Осаўскага с/с, і імя Варашылава, Хімоўскага сельсовета, прэзідыум РВК адзначае:

З-за нядбайных і халатных адносін старшынь калгасаў тт. Бебчыка і Казлова ў гэтых калгасах наглядаюцца вялікія страты пры ўборцы ўраджаю.

У калгасе імя Будзённага на кожны квадратовы метр зжатага ўручную ўчастка ў сярэднім астаецца на полі па 12 каласоў на адзін кв. метр. Па калгасу імя Варашылава застаецца па 20 каласоў на адзін кв. метр. У калгасе імя Будзённага жняяркі работаюць без зернаўлавіцеляў. Усё гэта наносіць вялікія страты калгасам і зніжае каштоўнасць працадня.

Старшыня Осаўскага сельсовета т. Лемяшонак і Хімоўскага—т. Пуцікаў не зварачваюць ніякай увагі на якасць уборкі, не праводзяць ніякай масавай работы сярод калгаснікаў, не мабілізоўваюць іх на арганізацыю ўборкі без страт.

Па калгасу імя Будзённага з-за злачынна-нядбайных адносін жняяршчыка Макарчэнка Андрэя і каваля Лычкоўскага Томаша, якія пусцілі жняярку ў работу, не змазаўшы яе, у першы-ж дзень уборкі жняярка вышла са строю.

Выходзячы з гэтага, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. За дапушчэнне вялікіх страт пры ўборцы ўраджаю абвясціць тт. Бебчыку і Казлову вымову. Папярэдзіць іх, што пры далейшым дапушчэнні страт пры ўборцы яны будуць прыцягнуты да больш суровай адказнасці, і пытанне аб магчымасці далейшага іх кіравання калгасамі будзе пастаўлена на агульных сходах калгаснікаў.

2. Указаць старшыням сельсоветаў тт. Лемяшонку і Пуцікаву на адсутнасць з іх боку разгортвання масавай работы, мабілізацыі калгаснікаў на сапраўдную барацьбу за арганізацыю ўборкі без страт. Прапанаваць ім абгаварыць гэту пастанову ва ўсіх калгасах іх сельсоветаў з мэтай мабілізацыі ўсіх калгаснікаў на барацьбу са стратамі пры ўборцы ўраджаю.

3. Прапанаваць старшыні калгаса імя Будзённага т. Бебчыку паставіць на агульным сходзе калгаснікаў пытанне аб злачынна-нядбайных адносінах жняяршчыка Макарчэнка і каваля Лычкоўскага да сваёй работы, з-за чаго была выведзена са строю жняярка.

4. Прапанаваць старшыням сельсоветаў і калгасаў раёна, а таксама ўсім брыгадзірам калгасаў пільна правяраць якасць уборкі, устанавіць на ўсіх жняярках зернаўлавіцелі, арганізаваць неадкладна пасля жніва збор калоссяў. Разгарнуць сярод калгаснікаў і калгасніц масавую работу, мабілізуючы іх на ўборку без страт, прыцягваючы для гэтага паляводчыя секцыі сельсоветаў. Устанавіць у кожным калгасе грамадскі кантроль за якасцю ўборачных работ, не дапускаючы абсалютна ніякіх страт пры ўборцы ўраджаю.

Старшыня РВК Цітавец.

Сакратар РВК Кажэмякін.

# ВЫПІСКА

## з пратакола № 26 паседжання прэзідыума Старадарожскага раённага выканаўчага камітэта

*ад 19/VII—37 г.*

Слухалі: Аб становішчы пярвічнага ўчота і справаздачнасці па Дараганаўскаму і Старадарожскаму сельсоветах. (Дакл.—сакратары с/с *Усс* і *Гарбаль*, судакл.—*Львовіч*).

Пастанавілі: Заслухаўшы даклады сакратара Дараганаўскага с/с т. *Усса* і Старадарожскага с/с т. *Гарбаля* і судаклад раЙінспектара Наргасучота т. *Львовіча* аб становішчы пярвічнага ўчота і справаздачнасці па Дараганаўскаму і Старадарожскаму сельсоветах, прэзідыум райвыканкома пастанаўляе:

1. Адзначыць, што, не гледзячы на рад указанняў з боку райвыканкома і райінспектуры Наргасучота, пастаноўка пярвічнага ўчота і справаздачнасці па гэтых сельсоветах знаходзіцца ў дрэнным становішчы: не заведзены журналы ф. № 1 па калгасах, не запоўнен раздзел VI пагаспадарчых кніг аб колькасці зямлі па гаспадарках, не запоўнен раздзел V—заданні па жывёлагадоўлі, па частцы гаспадарак не поўнасцю ўлічана насельніцтва, па частцы гаспадарак рабочых і служачых не поўнасцю разнесена жывёла на 1/II—37 г.; нагляд аюцца выпадкі рэгістрацыі па ЗАГС'у па нараджэнню і смерці без подпісаў заявіцеляў і з парушэннем устаноўленых урадам тэрмінаў, без прыцягнення віноўных да адказнасці; аператыўная справаздачнасць, асабліва па сельскагаспадарчых работах, часта перадаецца ў райЗА па тэлефону са значным спазненнем і без пісьмовых пацверджанняў.

2. Журналы ўчота хода сельгаскампаній райзем аддзелам разданы сельсоветам позна, у рэзультаце—работы зімовавясенняга перыяду сельсоветамі ў кнігі не занесены.

3. Старшыні некаторых сельсоветаў самаўхіліліся ад гэтай работы і лічаць яе выключна справай сакратароў сельсоветаў і не толькі не аказваюць ім дапамогі ў гэтай рабоце, а, наадварот, сістэматычна адрываюць іх ад гэтай работы і нават важнейшыя зводкі па ходу сяўбы, па ураджайнасці і інш. не лічаць неабходным падпісваць (Дараганаўскі, Горкаўскі, Пасецкі і інш. сельсоветы).

4. З боку райінспектуры Наргасучота кантроль і дапамога сельсоветам у справе палепшання пастаноўкі пярвічнага ўчота і справаздачнасці—недастатковыя.

5. Катэгарычна папярэдзіць сакратара Дараганаўскага сельсовета тав. *Усса* і Старадарожскага с/с тав. *Гарбаля*, а таксама сакратароў усіх сельсоветаў, што калі ў тыднёвы тэрмін у іх поўнасцю не будзе аформлен пярвічны ўчот

з акуратным яго вядзеннем у будучым і калі не будзе наладжана своечасовая, правільная і акуратная аператыўная справаздачнасць па сельсоветах, яны будуць прыцягнуты да адказнасці як за дэзарганізацыю ўчотнай справы.

6. Абавязаць старшынь сельсоветаў узяць справу ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах пад свой непасрэдны нагляд.

7. Абавязаць раінспектара Наргасучота ўзмацніць жывую сувязь з сакратарамі сельсоветаў і кантроль за поўным, своечасовым і акуратным вядзеннем пярвічнага ўчота і палепшання справы справаздачнасці ў сельсоветах.

Аб усіх выпадках злоўжывання ці нядбайнасці, якія цягнуць за сабой расстройства ці скажэнне ўчота, справы перадаваць пракурору для прыцягнення віноўных да адказнасці, у адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 26/I 1934 года „Аб пярвічным учоце ў сельсоветах".

8. Абавязаць інструктара РВК пры абследванні сельсоветаў абавязкова правяраць таксама і пастаноўку ўчота і справаздачнасці.

9. Для павышэння ведаў па ўчотнай рабоце правесці трохдзённую нараду-курсы сакратароў сельсоветаў па ўчоту і справаздачнасці.

Даручыць сакратару РВК тав. *Рызову* і раінспектару Наргасучота тав. *Львовічу* прадставіць на зацверджанне чарговага паседжання прэзідыума РВК праграму і каштарыс курсаў.

Сакратар РВК Рызоў.

## ПАСТАНОВА

### прэзідыума Крупскага раённага выканаўчага камітэта

*ад 24 ліпеня 1937 г.*

### Аб пярвічным учоце і справаздачнасці сельсоветаў і калгасаў

(унёс т. Шышпар).

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 26/I—34 г. аб парадку вядзення ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах прэзідыум РВК адзначае:

1. Праверкай Райнаргасучота ў красавіку месяцы г. г. і пры перадачы фінансавай справы сельсоветамі райФА выяўлены па цэламу раду сельсоветаў зусім нядбайныя адносіны да справы вядзення пярвічнага ўчота і справаздачнасці, як напрыклад: у гаспадарчых кнігах зусім адсутнічае запіс

